Poczta opłacona ryczałtem.

Цана 25 гр.

№ 2. Панядзелак 25 Сакавіка 1929 г. Год 6.

# АВАДЗЕНЬ

ДВАТЫДНЁВІК САТЫРЫ ЖАРТАЎ І СЬМЕХУ.




Žonka čytača: -Moj Staś prywyk da hetaj (chawaj Boža!) hazety, jak chto k harełcy... Pajedziem damoŭ.

Susied: -Čytaj, swatok, da astatniaje literyny.




-Ci ja tabie, Panas, nie kazała, što ni adnych nas nieuradžaj zmaryŭ...

-Praŭda... Widać usim nia lohka žyć na świecie...

XXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXX

**Разгадаў.**

Вучыцель:

-Адзін фурман праежджае ў гадзіну 10 вёрст, а другі - толькі 7. На каторэй вярсьце дагоніць першы другога, калі другі выедзе на 15 мін. раней першага?

Вучань:

-Гэта, пане прафэсар, залежыць ад таго, на каторай вярсьце стаіць першая на гэтай дарозе карчма.

---

**Фальшывым „беларусам."**

Прыкрыўшыся вопраткай белаю,
Свой воблік схаваўшы пад ей
Круціцца пачалі вы сьмела
паміж Беларусі дзяцей.
І цешучысь песьняй іх нуднай,
Што рвецца з збалелых грудзей
Вы с шчырасьці мінай аблуднай
Да працы ўзяліся свaей.
І ціха, на хлебныя нівы
Чужых вам ад веку людзей,
Вы сеяць пачалі крапіву
Рукою нядобрай свaей...
...........
Ня цешцеся гэдак заранення
За летам заўш восень брыдзе...
Паволі й да вас час зьбіраньня
Таго што вы сеялі йдзе.

Янсон.

---

**Racept.**

Doktar napisaŭ i padaje chworaj racept.

-Kolki treba płacić wam, panie doktar?

-50 złotych.

Chworaja zrywajecca z kresła i ad nerwowasci biehaje pa pakoju.

-Addajcie mnie racept, - kaza doktar.

-Ci pan d-r choča canu zmienšyć?

-Nie, chaču štoś dapisać na uspakajennie waspaninych nerwaŭ.

Cyr.War.

**U biblijatecy.**

-Dajcie mnie dobruju knižku pra luboŭ, - prosić maładzieńkaja abanentka.

-Ja nie chaču was psawać, - adkazwaje biblijatekar.

-Čamu - pytajecca taja.

Dyk-Dz.

Янка навабранец атрымаў карабін на рукі.Пасьля муштры ён пытаецца у таварыша:

-Браток!ты болей ужо ведаеш на што гэта дзірка у стрэльбе?

Таварыш засьміяўся ды кажа:

-Ці-ж ты сам не дадумаўся?гэта каб стрэльба была лягчэйшаю.

ooooooooo

## П р ы  с ь м е р ц і.

Паміраў стары Залман.Каб развітацца з раднёй ён пачаў зваць:

-Ці мая жонка Сора тут?

-Тут.

-Ці дачка Гіндэлэ тут?

-Тут.

-Ці Хайкелэ тут?

-Тут тата.

-Ці сын Мойшэ тут?

-Тут.

-І Бэрка тут?

-Так,тата.

-Хто-ж пры гандлю,каб вас...

Фармановіч

--------------

## П а  т э л е ф о н у.

-Галё Ці там ломбард?

-Ломбард.А што трэба?

-Калі ласка...Якая цяпер гадзіна?

-Пану здаецца што я сяджу на тое,каб гадзіны гаварыць?мыліцеся.

-Ніскольнкі:У вашым ломбардзе мой гадšіньнік.

Cyr.Warsz.

--------------

-Piatrok,ĉamu ty wychodziŝ z chaty,jak twaja ẑonka piaje?

-Bo nie chaĉu,kab susedzi padumali ŝto ja jaje bju.

## Перад злодзействам.

Адзін злодзей кажа другому:

-Сьмялей,браток,лезь!Ведаеш-жа што адвага і тваиму бацьку была частаю таварышкай у жыцьці.

-То то і я думаю:пакуль ён лазіў праз дзьверы было ўсё добра, а як набраўся адвагі ды палез праз вакно,дык яго й забілі.

-------------

## Я к а я  радня...

Сярэдні брат пытаецца у старшага:

-Скажы,браток,што гэта за радня прыходзіцца нам наш бацька?

-Ня ведаю добра,але с таго часу,як я стаў помніць,маці усягды яго называла бацькам і мне прыказывала,але хто ён нам прыходзіцца-ня ведаю.

У гаворку умешаўся меншы:

-Што так гаварыць глупства,ня ведаю?Ды ён загэта прыходзіцца нам радня,што з нашай маткай ажаніўся.

К.Зерня.

-----------

## ДАГАДЛІВАЯ.

Нехта наймае пакой пры сям'е ды хваліцца:

-Панічка.Як выежджаў я с папярэдняе кватэры дык гаспадыня...наўзрыд плакала...

-Ну...у нас гэтага ня будзе,-адказала востра новая гаспадыня,-бо грошы за пакой прыдзецца вас пану заплаціць наперад.

Cyrйar

Pašyrajcie A w a d n i a pamiž swaich blizkich i znajomych.

# Як хто...




Адна газэта, каб прыдбаць сабе
больш чытачоў, мяркуе гэдак:
Трэба палітыкай заняцца
Ды больш сваіх людзей садзяць.
Кусаць, у вочы ім кідацца...
Мо' болей хто-б пачаў чытаць.
Бо во як пішым вершы-жарты
Або які-нібудзь расказ,
Дык людзі кажуць, што ні варта
Саўсім і ў рукі браці нас.
Каб хоць вайна або здарэньне
Якое грымнула як гром,
Мяне-б чыталі ўсе штодзенна,
Мой курс у гору бег бягом.



Фэльчар без працы бядуе:
Працы німа; галекць людзі,
Абеззабоціўся народ...
Што з лекарамі гэта будзе,
Як так пацягне колькі год?
Хіба чахотка што падообіць,
Але дарма, ну як лячыць!
Каб газы мо' якія зробіць...
Хваробы на людзей пусьціць...



Адзін бедны абаронца стогне:
Чорт ведае што гэта стала!
Так цяжка зробілася жыць
Саўсім цяперка працы мала-
Трэба падумаць што рабіць.
Народ пакінуў біцца, красьці,
Ці на каго дзе нападаць...
Ці то другое тут нечасьце-
(Мо' мне не сталі даверяць?)
Здаецца вінным пасабляеш
За грошы кару адпіхнуць,
Або нявінных заматаеш
Гадоў на колькі адпачнуць.
Каб голад больш людзей прыцісну,
Ні праўда-ён-ба ўсё зрабіў:
Той дзе напаў, а той што сьвіснуў
Ну я-б тады ізноў зажыў.

awadnia praĉytaj sam, a tady daj
jaho paĉytać susiedu. Chaj ŝyryc-
ca pamiž Was rodnaje słowa.



Адзін баязьлівы чыноўнік кажа:
Здаецца нас цяпер няшмнога.
А з верху ўсё яшчэ глядзяць
Каб без ніякага нічога
Яшчэ й яшчэ рэдукаваць!
Што мне рабіць? што гэта будзе?
Ці-ж зрэдукуюць нас усіх?
Не! трэба выдумаць, каб людзі
У „kolejkach" стоючы даўгіх
Па тры-пяць месяцаў чакалі

На „залатвеньне" справаў іх
Тады-б ужо не рэдукавалі:
Бо хто-б „залатвіў" іх усіх!
А ты сядзі сабе капайся,
Ды атпраўляць іх не сьпяшы;
Там пафліртуй, папрыглядайся,
Аж во глядзіш... і тры часы.



Злодзей бядуе уздыхаючы:
Ах каб вайна хутчэй паўстала.
(Няго народ паразумнеў!)
Табы б жыцьцё для нас настала:
Грабіў-ба кожны што хацеў.
Каму вайна-гэта нешчасьце,
А нам вайна-дык гэта рай..
На фронце, калі добры майстар,
Бій, грабь, зьдзірай ды прадавай.
Адказнасьці тады ніякай
(Абы канцы умеў схаваць)...
Ах, каб людзей прыціснуў болі
Голад-дык сталі-б ваяваць.

......

Усякі хоча будаваці
Шчасьце сваё ў чужых сьлезах...
Хацеў-ба шчыра ўсім гукаці
Зьмяніце план у галавах.

Янсон.

OOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOOO

U b i b l i a t e c y.

_ Dajcie mnie dobruju kniżku,
je na was pakładajusia.
-Kali wy ūsie na mianie pakładzieciesia, dyk ja nia wytrymaju.
-Nie, nie: na waŝ smak...
-I smak moj nie datrymaje.

Dyk-Dziela.

oooooooooooooooooooooooooooooooo



oooooooooooooooooooooooooooooooo

-Dzie ty żywieŝ?
-A tam proci teatru.
-Proci jakoha teatru?
-A proci taho, ŝto kala majej kwatery.

## Здарэньне ў лазьні.

От, братцы мае, якая са мной чартовіна вышла. Проста умерці са сьмеху.

Сяджу гэта я, значыцца, і як-быццам сьмешны расказ складаю аб утопленьніку.

А жонка гавора:

-Што гэта, -кажа, -ёлкі-палкі, у цябе твар індыфэрэнтны. Пашоў бы, кажа, -у лазьню памыўся-б.

А я адказваю:

-Што-ж кажу пайду. Памыюся. І пашоў.

-І што-ж вы, братцы мае, думаеце? Не пасьпеў гэта я мачалкай, выбачайце за словы, плечы намыліць чую-каравул крычаць.

Пэўна думаю, нехта мылам удавіўся ці варам абварыўся.

А з прадлазьніка між іншым чалавек выскаквае. Голы. Каравул крычыць.

Мы ведама да яго. У чым справа? -пытаемся. Што, пытаемся, здарылася?

А чалавек барадою трасе і рукамі размахвае.

-Каравул! -крычыць, -у мяне нос укралі!

І праўда. Паглядзелі: у яго заместа наса-голае месца.

Ну тут, ведама, рашылі народ абшукаць. А голых абшукаць саўсім плёвае дзела. Калі ўкраў што, дык у рот не схаваеш.

Абшукваюць. Гляджу, да мяне чарга падходзіць. А я, як на грэх, намыліўся увесь.

-А ну, -гаворуць, -грамадзянін абмыйцеся.

-Абмыццэ, кажу, можна. З мылам, кажу, у нагавіцы не палезеш. А толькі, кажу, дарэмна сябе турбуеце. Я кажу, ніякага наса ні браў. У мяне, кажу, свой нос ёсьць.

-А гэта, -гаворуць-, пабачым.

Ну, абмыўся я. Гляджу... ёлкі-палкі, й запраўды-ж у мяне два насы!

Чалавек, ведама, у амбіцыю.

-Вельмі-ж, -крычыць, -з вашага боку нахальна у працоўных насы красьці. За што крычыць змагаліся

А я кажу

-Надта, кажу, мне ваш нос патрэбны Можаце, кажу, ім давіцца. Не ў насе, кажу, шчасьце.

Шыргануў гэта я яму значыцца нос і дамоў пашоў. А ў дарозе ўстрывожыўся:

А ну-ж, думаю, -я насы пераблытаў! заместа чужога свой аддаў?!

Хацеў было назад вяртацца ды плюнуў:

--Хвароба, думаю, з ім. Ніхай карыстаецца. Мо' ў яго яшчэ што ўкрадуць а мне аддувайся.

Пародыя А Ар-скага на
М. Зошенко
Пераклаў з расейс. С-ъ

---

Wyjšła z druku i pradajecca nowaja wielmi patrebnaja i karysnaja kniha

BIEŁARUSKA-POLSKI SŁOŪNIK ułožany B. Druckim-Padbiarezkim pad redakcyjaj W. Hryškiewiča, siabry Biel. Nawuk. T-wa u Wilni.

Słoūnik abyjmaje 15,000 biełaruskich słoū. Biełaruskija słowy - kirylicaj i łacinkaj.

Cana 7 zł. za ekz.

Pradajecca u-wa ūsich Biel. kniharniach. Hałoūny skład u wydaūca Wilenskaje wydawiectwa B. Kleckina, Wilnia, W. Stefanskaja 32.

Kniharniam s k i d k a .

## НАВУКА.

Раз на возеры улетку,
Дзе гэны трасьнік,
Там на рыбку сваю сетку
Распусьціў старык.
I да берага кіруе
Ўжо сваё чаўно,
Бо у сетцы рыбка,чуе,
Ёсьць ужо даўно.
"То то будзе паядухі,"
Думаў стары дзед,-
Не зьямо мы са старухай
За адзін абед.
Ну пабольшую прадаці
Ў рынак панясу,
А там,траба крыху даці
Сыну Францусю."
I во гэдак змеркаваўшы
Вылез дзед на бераг,
Ды на рыбку хутка ўзяўся
Рыхтаваці мех.
-Але ці ня лепей,-кажа,-
Так абмазгаваць,
Каб яе во тут адразу
Ды й пасартаваць;
Чым пасьля ізноў у хаці
З ёю клопат мець.-
Толькі як тут рады даці?
Дзе яе падзець?
Мех адзін,а рыбы многа
Ў сетцы,у вадзе...
Не ня здумаю нічога
Я у сваей бядзе.
Ды надумаўшы з гадзіну
Дзед аж стаў пяяць...
-Што я!што я!траба сына
Клікнуць пасабляць.
-Ён якраз на панадворку
Дровы чую бье."
I узабраўшыся на горку
Сына дзед заве.
-Гэй Францусь хадзі ды хутка!
"Хутка,як мага!
Столькі рыбы у сетцы тутка,
Што й сказаць нелага.
Ды мяшкі нясі...а Мілцы
Не забудзь сказаць:
Хай падедзе на кабылцы
Рыбу тут забраць!"
Гэта ўчуўшы і суседзі
Дзіва йшлі глядзець,
А старык на сетку гледзя
Сына ўсё завець.
-Ну а дзе-ж тут тая рыба?-
Сын прыйдзя спытаў.
-Хай цябе!ні бачым ліба!..
Дзед так загукаў.
Пагалядзі вун як у сетцы
Пачала гуляць...
Цягнем,бо як узлуецца-
Мажа сець парваць.
Во натужылі вяроўку
Пачалі цягнуць,
А суседзі на прыгорку
Сабраўшыся ждуць.
Дзед аж стогне:цяжка,-кажа,
Сетка йдзе нябось...
Вось як выцягнем-дык зважым
Колькі рыбы ёсьць."
Вось да берага ўжо бліска;
Выцягнулі-бразь...
Колькі сьмеху,колькі піску
Падначлося ўраз!
Злосна дзед скрабаў за вухам,
Бо здабычы ўсей:
Сьлімакі,карчы,рапухі...
Рыбкі-ж ні аднай.
.............
-Ах,сусед,учыся ўнова,-
Кажа сват Пракоп,
Не пераскакнуўшы рову
Не кажы брат "гоп."

Ян-вас.

Ці выслалі Вы ужо падпіску на Авадня?

PRAŬDZIWAJE ZDAREŃNIE.

Hetaj zimoj padčas wialikich samych marazoŭ pryšłosia kumam wiaźci kścić rabionka.

Zajechali u miastečka,pašli u kaściol,akścili rabionka.Pašla zajšlisia da arhanistaha pahrecca pierad darohaj,dy tam pačarcy wypili.

Da domu było wiorst dziesiać. Kab nie ciahnuć da poznaha(bajalisia waŭkoŭ) kumy nie marudzili i praz paŭhadziny užo jechali damoŭ.

Rabionak byŭ dobra abkručany pialenkami ,abwierčany kołdrami i ležaŭ u padušcy na kalenkach u kumy.Taja ściskajučysia ad marozu zanadta musić starenna abkrywała siabie i paciskała padušku...Dosyć taho,što padčas jazdy rabionak s paduški wyślizhnuŭsia i zwaliŭsia na śnieh.

Kuma hetaha nie zaŭważyła i damoŭ prywiezła tolki padušku.

Baćki i hości chapilisiaź

-A dzie-ž dziacionak?

Kinulisia na kaniach nazad...

Ŭ trach wiarstoch ad domu na śniahu,pry samaj darozie,znajšli jaho.Spaŭ.Byŭ dobra abkručany...maroz ni zaškodziŭ...

Radaść kumoŭ i baćkoŭ była nie da apisańnia.

Anwas.

xxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxx





Чиноўнік рупіцца на службу. Па дарозе ён спаткае гандляра і питаецца:

-Перапрашам вас:каторая цяпер гадзіна?

Я збіўся са чоту..

---

-Tut panu budzie tak sama dobra jak i doma.

-Oho...Tady ŭciekaju...Spadziewaŭsia,što tut,prynamsia, znajdu spakoj.

Cyr.War.

---

НАША ПОЧТА:Усіх падпісчыкаў і прыяцеляў Авадня вінтуем з сьвятам Пасхі і вясной.

Adras Radakcyi: Wilno,Wielka 3-10.Padpiska na hod 6 zł;na paŭhoda 3 zł;na try miesiacy 1 zł 50 hr;Za hranicu na hod dwa dalary.

Radaktar-Wydawiec Anton Wasilieŭski.

Litogr.Łaskowa Wilno,ul.Subocz Nr 9.